Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 6 — Нядзеля, 20 Ліпня 1924 г. — Год I.

# Гра[…]адзкі голас

[…] разы ў тыдзень. — Цана нумару 15 грошай.

П[…] 1 месяц 1 злоты 20 гр. […]цу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.



## Недасканальнасьць.

Калі прыглядзецца да таго месца законау аб языковым праве нацыянальных меншасьцяу Польскае Рэспублікі, дзе пералічаюцца акругі, у якіх законы гэтыя будуць мець сілу, дык проста кідаецца у вочы незразумелая крыуда для беларускага народу.

Крыуда гэтая крыецца у тым, што ня усё беларускае насяленьне, якое знаходзіцца у межах Польшчы, можа карыстацца у поунай меры правам, вылажаным у законах аб роднай мове.

Паводлуг 2-га артыкулу закону аб дзяржаунай мове і мове урадаваньня дзяржауных і самаурадовых адміністрацыйных уладау, беларусы могуць карыстацца сваею мовою у зносінах з гэтымі уладамі толькі у Віленшчыне, Наваградчыне й Палесьсі, а таксама у паветах гарадзенскім ды ваукавыскім Беластоцкага ваяводзтва.

На паветы-ж — *беластоцкі, сакольскі* й *бельскі* ды часьць *аугустоускага, заселеную беларусамі* законы аб роднай мове пашырацца ня маюць.

Хоць беларускае насяленьне вынятых з-пад законау аб мове мясцовасьцяу пераважна каталіцкае па рэлігіі, аднак гэта саусім не мяняе яго этнічнае сутнасьці.

Вельмі магчыма, што гэтае каталіцкае насяленьне у сэнсе *псыхолёгічным* зьяуляецца польскім па простай тутэйшай народнай кваліфікацыі: *калі я каталік, дык значыць і паляк.*

Але-ж падобная псыхолёгія злажылася, дзякуючы гістарычным ненармальнасьцям, дзякуючы досіць доугай нашай і польскай палітычнай няволі.

Трэба памятаць, што побач з русыфікатарскаю работаю маскоускага ураду сярод праваслаунага беларускага насяленьня ішла, як процiатрута, палянізатарская работа каталіцкага кліру сярод беларусау-каталікоу.

Вялікіх рэзультатау, як тая, так і другая работа не дала, хоць і пасеяла у пары беларускіх пакаленьняу прывычку *азначаць сваю нацыянальнасьць паводлуг рэлігійнай прыналежнасьці.*

Як у інтарэсах польскае дзяржаунасьці, так і у інтарэсах беларускага адраджэньня павінна быць не паглыбляньне старых грахоу гісторыі, а поунае зьліквідаваньне іхніх пасьледзтвау.

Беларускае грамадзянства ніколі ня зможа памірыцца з думкаю, што у Польшчы могуць існаваць *дзьве катэгорыі* беларусау: адна, што ужо адтрымала прызнаньне свайго права, а другая, не адтрымаушая яго.

Гэткае штучнае, неабдуманнае раздваеньне беларусау у Польшчы будзе рана ці позна асуджана самым жыцьцём, як толькі сьвядомасьць беларуская пракоціцца шырокаю хваляю да усіх сваіх натуральных рубяжоу.

У выдзяленьні беларусау беласточчыны, сакольшчыны, бельшчыны і усіх іншых куткоу нашага краю, заселеных беларусамі з-пад разумнага права, наданага дзяржаунымі законамі, зьяуляецца *найвялікшаю недасканальнасьцю гэтых самых законау,* якія адразу ужо вымагаюць свае уласнае новэлізацыі.

На гэта мы мусім, пакуль ня позна, зьвярнуць увагу, як сваіх уласных чытачоу, так і тых чэсных палітычных кругоу Польшчы, якія таксама мусяць патурбавацца аб тым, каб на паударозе ня спыняцца, а дарабіць раз ужо пачатую справу да яе нармальнага канца, бо на сваіх беларускіх паслоу, якія нэгатыуна аднесьліся да самага прынцыпу законау аб роднай мове нацыянальных меншасьцяу, вялікіх надзеяу пакладаць нам ня прыходзіцца.

Польшча ня можа быць мачахаю для беларуса толькі таму, што ён мае аселасьць ня у Віленшчыне, Горадзеншчыне, ці Наваградчыне, а у Сакольшчыне, Бельшчыне ды Беласточчыне.

Як у адным, так і у другім раёне беларусы жывуць шчыльнаю масаю, нічым, апрача рэлігійных ды некаторых нездаровых псыхолёгічных момантау, паміж сабою ня розьняцца, а дзеля гэтага павінны карыстацца як правамі, так і абавязкамі сваімі грамадзянскімі аднолькава роуна.

Паправіць памылку ніколі ня позна, а апраудаць яе абсолютна няма чым.

Вышэйагаворанае зьявішча беларускае неаднолькавасьці у сэнсе нованароджанага сьвятога права нашага зьяуляецца для нас ніяк незразумелым і калі зьявішча гэтае пачне заваёуваць сабе месца у жыцьці, дык проці яго запротэстуе сама прырода, запротэстуе кожная пакрыуджаная беларуская душа.

А гэтага якраз не хацелася-б чуць, не хацелася-б бачыць.

## Лёнданская конфэрэнцыя.

У Лёндане адчынілася конфэрэнцыя саюзных дзяржаваў з удзелам прадстаўнікоў Злучаных Штатаў, Японіі, Румыніі, Партугаліі, Сэрбіі ды Грэцыі. Конфэрэнцыя гэтая пасьля Гэнуэзкай і Гаагскай самая вялікая і на ёй сканцэтравалася ўвага ня толькі ўсяе Эўропы, але нават і ўсяго сьвету, дзеля таго, што яна павінна аканчальна урэгуляваць так званае „рэпарацыйнае“ пытаньне, г.е. пытаньне аб выплаце немцамі ваеннае кантрыбуцыі, якое перашкаджае ліквідацыі агульна-эўропэйскага эканамічнага крызысу, паўстаўшага пасьля вайны і захопліваючага з кожным годам і месяцам ўсе большыя абшары. Таму на Лёнданскую конфэрэнцыю запрошаны прадстаўнікі тых дзяржаваў якія ваявалі з Нямеччынай і якія, значыцца, зацікаўлены ў тым, каб Нямеччына выканала абавязкі паводле Вэрсальскага трактату.

У аснову Лёнданскае конфэрэнцыі будзе пакладзены плян экспэртаў, гісторыя пахаджэньня і значэньня якога такая:

Спачатку нямецкая кантрыбуцыя была вызначана па Вэрсальскаму трактату ў суме 375 мільярдаў залатых нямецкіх марак на карысьць саюзных дзяржаваў. Але немцы ўвесь час адмаўляліся выконаваць у гэтых разьмерах свае абавязкі, матывуючы матар'яльнымі перашкодамі, пакуль саюзьнікі ўрэшце не паменшылі гэнае цыфры да 50 мільярдаў марак. Гэта толькі падбадрыла немцаў, і яны ўрэшце адмовіліся і ад гэтай сумы. Адмова гэта прымусіла Францыю ўжыць у адносінах да Нямеччыны рэпрэсыўныя меры (санкцыі) з мэтай прымусіць яе плаціць належнае. Францыя ў студзені 1922 году заняла Рурскі басэйн, самы прамысловы раён у Нямеччыне з найбагацейшымі ў Эўропе вугольнымі капальнямі. Гэта мера давяла да канчальнага банкроцтва нямецкіх фінансаў, і Нямеччына адступілася і абяцала плаціць кантрыбуцыю, толькі прасіла вызначыць спэцыяльны міжнародны камітэт экспэртаў, які-б зрабіў досьлед платаздольнасьці Нямеччыны ды устанавіў спосаб і разьмеры выплатаў. Дзеля таго, што ад окупацыі праз Францыю Рура цярпела ня толькі Нямеччына, але таксама і Англія, зьвязаная з ёй эканамічна, то гэта прапазыцыя знайшла падтрыманьне ў ангельскіх і амэрыканскіх урадовых кругох. Урэшце абмену поглядамі паміж Лендaнам, Парыжам, Вашынгтонам і Рымам вырашылі вызначыць асобны камітэт экспэртаў, з амэрыканскім прадстаўніком гэнэралам Дavісам на чале.

Камітэт гэты, падзяліўшыся на дзьве групы, зрабіў досьлед фінансавага ды эканамічнага палажэньня Нямеччыны і ўлажыў плян рэалізацыі немцамі сваіх абавязкаў па даўгу. К моманту апрацоўкі гэтага пляну ў Францыі наступіла зьмена ўраду, якая таксама спрыяла мірнаму вырашэньню французска-нямецкага конфлікту. Пры гэтым Старшыня Камітэту экспэртаў гэнэрал Давіс прыйшоў да таго пагляду, што гэты плян здалее дасягнуць мэты толькі ў тым прыпадку, калі ён будзе прыняты ўсімі зацікаўленымі старонамі бяз ніякіх зьменаў. Пасьля гэтага плян разасьлалі ўсім саюзьнікам і Нямеччыне для прыняцьця. Нямецкі ўрад і Рэйхстаг прынялі яго ўрэшце, пасьля даўгіх ваганьняў, без агаворак. Цяпер плян будзе абгаварывацца на Лендaнскай конфэрэнцыі. Пры гэтым Лендaнская конфэрэнцыя будзе абгаварываць толькі спосабы правядзеньня яго ў жыцьце, дзеля таго, што саюзныя ўрады таксама далі сваю згоду на прыняцьце пляну бяз ніякіх зьменаў. Такім чынам, плян экспэртаў ці, як яго называюць, плян Давіса будзе пакладзены ў аснову далейшае рэпарацыйнае эўропэйскае палітыкі. Ад згоды Нямеччыны на увядзеньне у жыцьцё гэтага пляну залежыць амэрыканскі заем для Нямеччыны і нават ачышчэньне Рурскае краіны, а разам з тым і ліквідацыя эуропэйскага эканамічнага крызысу, які у значнай меры быу наумысьля створаны Нямеччынай. Неабходна яшчэ дасягнуць поўнае згоды паміж саюзьнікамі. Толькі пасьля гэтага можа наступіць рэалізацыя пляну экспэртау і, як вывад, рэалізацыя амэрыканскага займу, а разам з тым і ліквідацыя эуропэйскага эканамічнага крызысу і конфлікту паміж Нямеччынай і Францыяй, які увесь час пагражау эўропэйскаму міру.

I. С.

## Палітычны агляд.

Апошнія тыдні азначыліся праз тры наступныя важныя палітычныя факты: конфэрэнцыя ангельскага й французскага прэм'ераў ў Парыжы, Жэнэўская конфэрэнцыя міжнароднага бюра працы і конфэрэнцыя малой антанты ў Празе. Найбольшае палітычнае значэньне для будучага лёсу Эўропы мае першы факт.

Пасьля двухдзеннай нарады ангельскага прэм'ера Мак-Дональда з французскім прэм'ерам Эрыо ў Чэкэр-

се каля Лёндану, ў Парыжы пашырыліся чуткі, што Англія маніцца ўнясьці на конфэрэнцыі, якая мае адбыцца ў Лёндане, прапазыцыю, каб тыя функцыі, якія дагэтуль выпаўняла рэпарацыйная камісія, былі пераданы асобнаму міжнароднаму органу, як, прыкладам кажучы, Гаагскі судны трыбунал, Ліга народаў, ці спэцыяльна дзеля гэтага абраны камітэт. Рэпарацыйная Камісія, ў склад якой уваходзяць прадстаўнікі Англіі, Францыі, Італіі, Бэльгіі ды Японіі, істнуе, як ведама, на падставе Вэрсальскага трактату й сочыць за пунктуальным выкананьнем Нямеччынай рэпарацыйных, г. зн. выплатных абавязкаў. Праўда, ангельскі прадстаўнік заўсёды гатоў быў зрабіць палёгку ў выплаце для Нямеччыны й таму заўседы быў ў меншасьці ў часе галасаваньня камісіяй розных пытаньняў. Гэта дало грунт для францускае прэсы падазраваць Англію ў імкненьні пазбавіць рэпарацыйную камісію яе функцыяў, што было-б парушэньнем Вэрсальскага трактату. З гэтай прычыны ў Парыжы ўзьняўся вялікі шум і абурэньне проціў Англіі і новага свайго прэм'ера Эрыо. Гэта магло пашкодзіць лёнданскай конфэрэнцыі, склікаНай на гэтым тыдні, на якой аканчальна вырашыцца пытаньне аб нямецкіх выплатах. Каб спыніць усялякія бязгрунтоўныя чуткі, Мак-Дональд сам наведаўся ў Парыж і ў часе новага спатканьня і нарады з Эрыо высьвятліў і загаіў ўсе непаразуменьні, якія ня мелі пад сабой ніякага грунту.

Ня менш важнае значэньне мае жэнэўская конфэрэнцыя міжнароднага бюра працы, пасьвячоная пытаньню аб васьмёхгадзінным рабочым дні. Пасьля вайны ўрады шмат якіх гаспадарстваў, спужаўшыся рэвалюцыяў, склікалі ў Вашынгтоне (ў Амэрыцы) ў 1919 годзе міжнародную конфэрэнцыю, на якой была апрацована конвэнцыя аб васьмёхгадзінным рабочым дні, ці 48-гадзінным рабочым тыдні. Гэтую конвэнцыю падпісала 55 гаспадарстваў сьвету. Але для таго, каб які-нібудзь міжнародны дагавор, падпісаны пэўнымі ўрадамі, меў сілу абавязку, ён павінен быць ратыфікованы, г. з. прыняты праз законадаўчыя палаты пэўнага гаспадарства. Конвэнцыю, падпісанную ў Вашынгтоне, ратыфікавала толькі пяць гаспадарстваў другое велічыні, ў той час як рэшта (50 гаспадарстваў) не ратыфікавала і для іх вымаганьне прытрымліваецца васьмёхгадзіннага рабочага дня неабавязкова. Польшча таксама не ратыфікавала, але фактычна прытрымліваецца гэтага варунку. Цяпер гэтае пытаньне паднята дзеля таго, што Нямеччына прымусіла сваіх работнікаў працаваць па 10—11 гадзін у дзень, ці 60—65 гадзін у тыдзень. Дзякуючы гэтаму, нямецкія тавары каштуюць таньней, калі мець на ўвазе, што нямецкі работнік, у параўнаньні, напрыкл., з ангельскім, адтрымлівае ў дзень за працу менш паловы, а вырабляе куды больш. А ў параўнаньні з польскім работнікам ён вырабляе ў два разы больш, а платы адтрымлівае за гэта значна менш. Таму зусім зразумела, чаму ўсе дзяржавы, як Францыя, Англія, Швэцыя, ў тым ліку й Польшча, паднялі шум з гэтай прычыны, дамагаючыся, каб Нямеччына падпарадкавалася Вашынгтонскай конвэнцыі аб васьмёхгадзінным рабочым дні, бо інакш нэ здалеюць канкураваць з нямецкімі таварамі на сусьветным рынку. У Польшчы ўжо адчуваецца гэтае парушэньне праз Нямеччыну умоваў Вашынгтонскае конвэнцыі. Польскія фабрыкі, заводы ды капальні таксама прымушаны ці павялічыць рабочы дзень і паменшыць плату рабочым, ці зачыніць свае прадпрыемствы, бо польскія тавары не знаходзяць купца заграніцай, дзякуючы сваёй непамернай дарагоўлі. Такую-ж пагрозу робіць Нямеччына й рэшце эўропэйскіх дзяржаваў. Але яна ня хоча прызнаць Вашынгтонскай конвэнцыі, калі яна яе не ратыфікавала, а гвалтам прымусіць яе ратыфікаваць ніхто ня можа, бо гэную конвэнцыю не ратыфікавала і Англія з Францыяй, дзе работнікі маюць цяпер вялікі ўплыў на ўрады. Натуральна, што капіталісты іншых дзяржаваў пайдуць па сьлядох нямецкіх капіталістаў. А гэта давядзе да значных унутраных палітычных аслажненьняў, бо работнікі не адступяцца без барацьбы ад такіх вялікіх заваяваньняў дваццатага сталецьця, як васьмёхгадзінны рабочы дзень. У Польшчы ўжо пачалася барацьба паміж работнікамі і фабрыкантамі, ў якой урад іграе ролю прымірыцеля.

У Празе адбылася конфэрэнцыя дзяржаваў Малой Антанты, г. з. Югаславіі (Сэрбія), Чэхаславакіі і Румыніі. Гэтыя тры дзяржавы ўлажылі якбы саюз з мэтай наглядаць за тым, каб Аўстрыя не далучылася да Нямеччыны ці ня злучылася з Вэнгрыяй, а таксама, каб яна выпаўняла абавязкі паводле трактату аб міры. Апроч таго Малая антанта, агулам кажучы, стаіць на варце міру ў Сярэдняй Эўропе і зьяўляецца як-бы заслонай проціў Нямеччыны. Таму гэтыя дзяржавы арганізуюць час-ад-часу супольныя нарады каб пагадзіць сваю замежную палітыку ў адносінах да сваіх суседзяў. Апошні час выказавалася тая небясьпека, што Малая антанта разваліцца на грунце нязгоды па расейскаму пытаньню ў сувязі з Румынска-савецкім конфліктам за Бэсарабію. Але першае-ж паседжаньне конфэрэнцыі не апраўдала гэтых думак. Па ўсіх пытаньнях дасягнена згода, апрача расейскага, якое будзе вырашана пасьля таго, як выявіцца пазыцыя Францыі да Радавай Расеі.

Разам з эўропэйскімі пытаньнямі варты асаблівае ўвагі той факт, што Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі ў апошні час рашылі зьмяніць сваю пазыцыю ў адносінах да Эўропы. Далей Амэрыка не хацела-б умешвацца ўва ўнутраныя справы Эўропы. А без Амэрыкі, ў якой знаходзіцца ²/₃ золата ўсяго сьвету, Эўропа не здалела-б справіцца з эканамічным крызысам. У апошні момант Амэрыка пастанавіла прыняць удзел у лёсе Эўропы, асабліва пасьля таго, як плян экспэртаў, апрацованы пад кіраўніцтвам амэрыканскага гэнэрала Давэса, зрабіўся асноваю будучай рэпарацыйнай палітыкі і будзе галоўным прадметам абгавораў на Лёнданскай конфэрэнцыі. Амэрыка згадзілася на прапазыцыю прыняць удзел у Лёнданскай конфэрэнцыі ў ўжо выслала ў Эўропу свайго міністра заграмічных справаў Юза. А гэнэрала Давэса амэрыканская дэмократычная партыя намеціла ў прэзыдэнты рэспублікі дзеля таго, што ў канцы году канчаецца срок паўнамоцтваў цяперашняга прэзыдэнта Куліджа, які займае прэзыдэнцкае крэсла па праву намесьніка прэзыдента пасьля сьмерці Гардынга. А абраньне Давэса ў прэзыдэнты гарантуець аднаўленьне даваенных адносін між Эўропай і Амэрыкай, бо ён асабіста азнаёміўся з эканамічным палажэньнем Эўропы і асабліва Нямеччыны.

Нельга таксама пакінуць бяз увагі V конгрэсу камуністычнага інтэрнацыяналу, які толькі што зачыніўся ў Маскве. Настрой гэтага конгрэсу быў самы пэсымістычны. Няма веры ў сусьветную рэвалюцыю. На конгрэсе займаліся больш пытаньнем аб тым, як-бы ўбараніць камуністычную партыю ад моральнага і фізычнага раскладу, які ўжо пачаўся ды пагражае поўным развалам партыі як у Радавых Рэспубліках, так і ўва ўсіх іншых гаспадарствах. *I.*

---

# Сойм і Ўрад.

## Поўнамоцтвы.

Апошнія паседжаньні Сойму Польскае Рэспублікі ў летняй сэсіі заняты былі новымі поўнамоцтвамі для Ураду.

Сэнс поўнамоцтваў у тым, што, па згодзе Сойму, Прэзыдэнту Рэспублікі надаецца, непрадбачанае Польскаю Конституцыяю, права выдаваць загады, якія фактычна маюць сілу законаў. Першы раз даныя кабінэту п.

---

# Стахурская.

*(Глядзі № 5 „Грам. Голасу“).*

Направа, з-за высокага муру, ўздымалася вялізарная постаць касьцёла сьв. Пётры і Паўла, ўзносячы свае чорныя крыжы ў неба. Каля брамы касьцёла стаяла ўжо шмат народу. Тут-жа ціснуліся адзін да аднаго гандлярскія столікі з абразкамі, крыжыкамі, малітвенікамі і інш., а побач стракацелі вазы з абаранкамі, цукеркамі і пернікамі, ў постаці конікаў, чырвоных пятухоў, ляляк і інш. Рад вясковых фурманак цягнуўся ўздоўж муру; каля іх снавалі сяляне, даючы сваімі кажухамі і армякамі контрастную разнавіднасьць на фоне мястовай вуліцы. З высі вежаў нясьліся частыя ўдары званоў, заглушаўшыя людзкі гоман. Усё гэта добра было знаёма Стахурскай, бо відзела гэта штонядзелі. Спусьціўшы галаву, яна праціснулася праз народ і ўвайшла ў касьцёл. Перажагнаўшыся набожна і з павагай, падыйшла да свайго звычайнага месца каля амбоны і стала на каленкі. Імша яшчэ не зачыналася, але народу было ўжо ня мала. Адны сядзелі ў лаўках, другія стаялі каля дзьвярэй і сьцен. Сівы дзед у белым балахоне запальваў апошнія сьвечкі. Тупат яго ног гучна абвіваўся ад сьцен і мінутамі насіўся ў паветры, пакуль ня зьміраў у высокім скляпеньні. І ізноў наставала ціша, паважная і таямнічая, казаўшая аб нязвычайнасьці гэтага месца; і ўсё тут дыхала нязвычайнасьцю — і вялізнасьць будовы і магутнасьць слупоў, трымаўшых скляпеньне, раскоша скульптуры, з яе фантастычнымі фігурамі, суровая павага сьвятых, хараство абразоў, урачыстасьць аўтарнага асьвятленьня, ўсё казала: „Маліся, бо тут толькі знойдзеш ратунак; тут нявідома істнуюць усётворчыя сілы“ ...

Стахурская, чытаючы ў сваім малітвеніку, выразна гэта адчувала і стаяла ціха, не азіраючыся па бакох і не варушачыся, хаця калены яе зачыналі моцна ныць ад сьцюдзёных камянёў падлогі. Аднак гэта адразу забылася калі з аўтара пачуўся знаёмы голас, а за ім паліліся гукі аргану. З чуткім сэрцам прыслухалася Стахурская да незнаёмых слоў, стараючыся дадумацца аб іх значаньні. Здавалася ёй, што гэтыя словы апавядаюць аб сьвятым Збавіцелю людзей і знаёмыя абразы Божага жыцьця на зямлі паўставалі перад яе вачыма, як жывыя. То яна ўзносілася на сьвятую гару, дзе Вялікі Збавіцель склаў сваю ахвяру за людзей і тады яна прыпадала ў сваім сэрцы да сьвятога дрэва і шчыра-шчыра малілася за свае грахі і за ўсіх людзей, памятаючы наказ Бога. А божая музыка з усіх бакоў абдавала яе сваім дрыжэньнем і сьціскала сэрца. Здавалася, што кожны камянёк, кожная цэглінка гэтага сьвятога дому і самае паветра пялі хвалу Богу і іх галасы зьліваліся ў агульны, магутны гымн Тварцу, балюча хапалі за душу і нясьлі яе ў воблакі райскай гармоніі... А вось, сярод агульнай цішы, пачуліся словы прапаведніка. У сэрцы заварушыўся прыемны страх: аб чым ён скажаць?.. чаму будзе навучаць?.. За што караць?.. З нямой увагай і дзіцячай верай слухала яго Стахурская і кожнае слова яго адбівалася ў яе сэрцы, лезла ёй у душу, ў самыя далёкія куточкі і яе думкі, ў яе мінулае і сучаснае, выносячы яго на сьвет, на суд і кару... І шчыра каялася яна ў душы, грукаючы кулаком у грудзі: — Божа, будзь міласьціў мне грэшнай — прычытала яна, льючы гарачыя сьлёзы на каменьні. Калі-ж замоўк высокі навучацель — тысячы галоў, узьнёсшы ў гару вочы, запялі магутным хорам плач душы расчулай, галосячы і надрываючы галасы, тануўшыя ў віхры аргану, бурныя хвалі якога рвалі, раўлі, абдавалі натаўп малітвенным чадам і ўносілі агорнутыя душы ў няведамыя высі...

III.

Выйшаўшы з касьцёла, Стахурская стала каля брамы разам з жабракамі, і сумна глядзела на выходзячы народ, забыўшыся нат прасіць жабраніны. Перад ёю праходзілі маладыя і старыя, багатыя і бедныя; ўсе яны гаварылі, сьмяяліся, віталіся і йшлі кожны ў сваім кірунку, кожны ў свае роднае гняздо. Кожнага з іх чакалі спагадныя сэрцы; кожны з іх адбіваў у сваім твары жыцьцёвую поўнасьць, з яе горам, клопатамі і шчасьцем. Перад яе вачыма каціласа гучная хваля жыцьця, і яна моўчкі ўзіралася з боку на яе хараство...

Калі замкнулі браму, — да яе падыйшла старая жабрачка з дзірой замест носа: — Ну, пойдзем, грошы мусіць маеш? — Ідзі проч! — кінула ёй Стахурская і, глянуўшы на апусьцелы падворак, ціхаю ступою рушылася ўперад, няведаючы куды ёй пайсьці: дамоў—там абрыдлая сьцюдзёная куханька і есьці няма чаго, а болей—няма куды... Гэтак дайшла яна аж да сярэдзіны пляцу, пакуль не надумалася зайсьці да свае кухаркі. Выйшаўшы на памост яна скіравалася ў канец Антокалю. Дзень быў дзіўна харошы і цёплы. Стахурская ўмысна йшла паціху, азіраючыся па бакох вуліцы, каторая мела тут выгляд зусім местачковы. Рэдкія драўляныя дамы напалавіну хаваліся ў галінах

Грабскага поўнамоцтвы дзеля папраўленьня скарбу дасягнулі пастаўленае мэты і, відочна, дзякуючы гэтаму Урад ізноў зажадаў новых поўнамоцтваў на 6 месяцаў.

У праграму поўнамоцтваў уваходзіла шмат розных справаў, якія патрабуюць свайго хуткага разрашэньня; тут і рэарганізацыя Гэнэральнае Дзяржаўнае Пракуратуры, рэарганізацыя Самаўрадовага Аддзелу Галіцыі, рэарганізацыя таварных гелдаў, аднолькавасьць правілаў аб ліхве, зьмяншэньне ліку сьвятаў, скасаваньне міністэрства публічных работ, справа маетных правоў быўшага аўстрыяцкага імпэратара Каруся Габсбурга і г. д. і г. д.

Аж 32 пункты поўнамоцтваў зьведзены ў адно месца са ўсіх міністэрстваў.

Проці практыкі поўнамоцтваў катэгорычна выступіў Клюб Польскае Социялістычнае Партыі (P. P. S.), прадстаўнік якога пасол Пэрль у вялікай прамове з соймавай трыбуны даводзіў проціконстытуцыйнасьць практыкі поўнамоцтваў, дзеля таго, што права законадаўства, паводлуг констытуцыі, належыць толькі да компэтэнцыі Сойму, ў той час, як пры поўнамоцтвах законадаўствам у некаторым родзе займаецца Рада Міністраў, выдаючы распараджэньні з фактычнаю сілаю законаў.

Выходзячы з гэткага пагляду, пэпээсы пастанавілі прапанаваць Сойму выкрэсьленьне кожнага з 32 пунктаў паўнамоцтваў.

„Вызволене“ бараніла толькі некаторыя свае папраўкі да закону аб поўнамоцтвах.

Прэзэс Беларускага Пасольскага Клюбу пасол Рагуля вострa выступіў проці ўраду Грабскага, называючы гэты ўрад страшэнна рэакцыйным і падаўнейшаму скардзячыся на прасьледаваньні беларусаў, брак беларускіх школаў, замыканьне праваслаўных цэркваў і г. д.

Украінскі пасол П. Васыньчук выказаўся за роспуск Сойму.

Пасьля спрэчак, якія скончыліся 17-га гэтага ліпня выкрэсьлены галасаваньнем поўнамоцтвы: аб скасаваньні Міністэрства Публічных Работ, і абмежаваньні ўрадовае падмогі ў будове грамадзкіх школаў, а таксама аб абмежаваньні ліку сьвятаў.

За прапазыцыю польскіх соцыялістаў адкінуць закон аб поўнамоцтвах галасавалі толькі самі соцыялісты ды нацыянальныя меншасьці.

Апошняе ў гэтай сэсіі паседжаньне Сойму адбылося 18-га ліпня. Увесь бягучы тыдзень меу паседжаньні Сэнат, а Сойм зьбярэцца яшчэ на адно паседжаньне 31 гэт. месяца дзеля абгаварэньня сэнацкіх папраўак да паступіўшых законапроектаў.

**Ф. Б.**

---

# Фінансавыя справы.

### Даходы польскага скарбу за Чэрвень месяц.

Дзяржаўныя даходы ў Чэрвені паступалі лепей, як у Траўні.

Падаткі і манаполі далі разам 84,6 міл. злот., тады, як у Траўні 83,8 міл. зл.

Непасрэдныя падаткі далі ў Чэрвені 26,4 міл. злот., а ў Траўні 25,3 міл. зл. (ня лічачы падатку ад маемасьці).

Пасрэдныя падаткі ў Чэрвені далі 18,7 міл. злот., тады як у Траўні 15,8 міл. злот., а значыцца павялічэньне пастуленьняў у Чэрвені з гэтае крыніцы раўняецца блізу што 3 міл. зл.

Значна павялічыліся даходы ад манаполяў: у Чэрвені 6,2 міл. злотых пры 6,3 міл. злот. у Траўні. Зменшыліся толькі мытныя паступленьні: ў Чэрвені яны раўняліся 14,7 міл. зл., тады як у Траўні былі—17,5 міл. зл.

### Дзяржаўныя чугункі даюць даходы.

Паводлуг білянсу на 1-е Ліпня Польскія Дзяржаўныя Чугункі (P. K. P.) далі за прайшоўшага паўгода 288.488.862 злот. брутто, ў той час, як эксплёатацыйныя расходы за той самы час раўняліся 287.471.734 злот. А знач. даход перавысіў расход у прайшоўшым паўгодзьдзі на 1.017.128 злотых.

Першыя тры месяцы бягучага году давалі яшчэ дэфіцыт, які зьмяншаўся з месяца на месяц: у Студні ён яшчэ раўняўся больш як 10 міл. злотых, у Лютым ужо менш як 9 міл. зл., у Сакавіку толькі 300 тысяч злот., а ўжо з Красавіка даходы перавышаюць расходы: ў Красавіку на 6,5 міл. зл., у Траўні на 9,7 міл. злот., і навет у Чэрвені, які заўсёды ў чугуначнай гаспадарцы зьяўляецца няжывым месяцам, перавага даходаў над эксплёатацыйнымі расходамі раўняецца 4,2 міл. злотых.

### Даход ад табачнага манаполю усё расьце.

Дзяржаўны табачны манаполь дае з кожным разам большыя даходы: у Студні ён даў 3 міл. злот., у Лютым 4 міл. зл., у Сакавіку 7,6 міл. злот., у Красавіку 9,6 міл. злот., у Траўні 12,1 міл. зл. і ў Чэрвені 13,5 міл. зл.

У параўнаньні з гадавым бюд'жэтам паступленьні ад Табачнага манаполю далі ў першым паўгодзьдзі 60,07% прэлімінованае сумы, а ў параўнаньні з тым, што прэлімінована на 1-е паўгодзьдзе бягучага году ў месячных бюд'жэтах — 136,67%.

Ня шкодзіла-б з гэтае прычыны Манапольнаму Ураду падумаць аб паніжэньні цэнаў на табачныя вырабы!

*Р.*

---

# Палітычная хроніка.

### У Польшчы.

— На паседжаньні соймавай камісіі публічных работ пасол-соцыялісты Гауснэр паставіў перад урадам пытаньне датычна мінністэрства публічных работ, каб яно ня было скасавано, як проектуе гэта ўрад у законе аб новых паўнамоцтвах. Камісія пастанавіла не касаваць міністэрства.

— Соймавая камісія заграпічных справаў аднагалосна прыняла закон аб ратыфікацыі гандлёвага польска-дацкага дагавору. Таксама аднагалосна прыняты гэтаю камісіяй закон аб ратыфікацыі польска-латвійскае санітарнае конвэнцыі.

— Сярод розных погаласак аб рэконструкцыі кабінэту хадзіла таксама дзейка, што ў выпадку назначэньня пасла Тугута („Вызволене“) на пасаду міністра заграпічных справаў, віцэміністрам да яго прыстаўлены быў-бы вядомы эндэк Станіслаў Стронскі, галоўны рэдактар „Rzeczypospolitej“.

— Конфэрэнцыя шэфаў прасовых бюраў Эстоніі, Фінляндыі і Польшчы (ў Варшаве) падходзіць да канца.

— Як пішуць літоўскія газэты, ў Перамышлі паліцыя арыштавала цэлы рад сяброў камуністычнае арганізацыі, якая мела ўласную друкарню. Сьледзтва йдзе далей.

— Прэзэс Галоўнага Ліквідацыйнага ўраду Язэп Карсінскі выехаў на некалькі дзён ў Вену дзеля польска-нямецкіх перагавораў.

— Ураџ далей вядзе падгатаваўчую працу датычна *ўрэгуляваньня справаў нацыянальных меншасьцяў*. У першую чаргу маюдь урэгулявацца справы немцаў. Найтрудней з жыдоўскаю справаю. Датычна украінцаў бліжэйшымі днямі маюць быць далейшыя распараджэньні, якія вынікаюць з прынятых Соймам языковых законаў.

— На пленарным паседжаньні соймавага клюбу „Вызволене“ пасол Тугут не атрымаў адабрэньня сваіх довадаў за тое, каб увайсьці ўва ўрад, консолідуючы ўсе польскія партыі. Пасьледзтвам гэтага быў выхад пасла Тугута з „Вызволеня“.

— Міністар заграпічных справаў заявіў прэм'еру Грабскаму, што падасцџ ў адстаўку. Пан Грабскі адлажыў справу да паразуменьня з Прэзыдэнтам Рэспублікі.

— У хуткім часе ў Сойм мае паступіць урадовы законапроект аб скасаваньні праўных абмежаваньняў для жыдоў.

— Ваенны Міністар гэн. Сікорскі захварэў і мусіць вынясьці апэрацыю ў адным з варшаўскіх шпіталяў. Па-

---

вішань і бэзу; сінія і жоўтыя платы цягнуліся ўздоўж памосту, большасьцю згніўшага і дзіравага; цэлыя раі вераб'ёў, чылікаючы на ўсю моц, чапляліся па садох і скакалі па счарнеўшым сьнезе вуліцы; дзеці кучамі вазіняліся на санках і голасна гаманілі; праходзіўшыя спацыравалі, хораша апрануўшыся, паміж імі віднеліся рознаколерныя шапкі і наплечнікі жаўнераў, павялічваючы пярэстасьць публікі; пазіраючы на іх, Стахурская ўспамінала чарнявага „ундзера“ Катрыны, да каторай ішла. Яна добра ведала закаханасьць дзяўчыны, каторая зараз-жа папросіць яе паваражыць на картах; і хай толькі віновы кароль з „казённага дому“ думаець аб чырвеннай даме—Катрына не пашкадуець панскага абеду і буфэту. Але мары яе зараз-жа разьляцеліся, калі яна падыйшла да жаданага дому: каля брамы стаяў ужо чарнявы „ундзер“ і нецярпліва круціў вусы, чакаючы, відаць, Катрыны; ён баяўся зайсьці адразу на кухню, каб не спаткаць там неўспадзеўкі пана ці пані і не папсаваць гэтым рэномэ Катрыны. „Ну, цяпер ужо не да мяне“, падумала Стахурская глянуўшы на „ундзера“ і аж плюнула са злосьці: — прынясло-ж яго ў гэткую пару, каб ён скіс!

Мінуўшы яшчэ са тры кварталы, Стахурская апынулася каля знаёмае карчмы. Вострый пах смажанае рыбы, вылятаўшы з пабітых вокнаў і часта адчыняных дзьвярэй, узбудзіў голад Стахурскай. Мінютку прыпыніўшыся і кінуўшы вокам на худыя коні, гучна хрумстаўшыя сена, яна зайшла, ўрэшце, ў карчму. Каля доўгіх сталоў, застаўленых бутэлькамі, чорным хлебам і селядцамі на паперках, сядзеў з дзесяток сялян і моцна гутарыў. Часта ўжываныя люлькі на доўгіх цыбуках пускалі хмары едкага дыму, праз які ледзь прабіваліся сонцавы праменьні, прымаючы руда-зялёны колер. Паміж сталоў совалася штомінюты таўстая жыдоўка, слугуючы гасьцём. Стахурская падыйшла да буфэту і стала разглядаць расстаўленыя талеркі з закускамі. Нацэліўшы сабе добры кавалак рыбы, палажыла яго на сподачак, узяла булку і пайшла з гэтым да стала. Аднак доўгі час не магла зачаць есьці, ня ведаючы на што рашыцца: з аднаго боку пах гарэлкі так моцна ласкатаў нюх, што аж млосна рабілася, з другога — паўставала пытаньне: а калі-ж піць пакінеш? Гэтае хістаньне спыніла жыдоўка; падыйшоўшы да Стахурскай і ласкава глянуўшы ў вочы, яна запыталася: — Ну, а гарэлкі табе ня трэба? — Дай паўпляжкі,—адказала тая і сама падзівілася гэткаму хуткаму рашэньню.

Праз мінюту яна налівала ў вялікую чарку празрыстае зельле, а вусны яе дрыжэлі, загадзя смакуючы яе горкасьць... Замест апарожненай паўпляжкі хутка зьявілася поўная, а сама Стахурская пазірала пасалавелымі вачыма на карчму і яе гасьцей. Зусім іначай пачувала яна сябе цяпер — зьмякчэў і зьменшыўся сум душы, замест глыбокага расчараваньня сьветам, зьявілася надзея і цікавасьць, цягнуўшая яе да людзей. Хацелася блізкасьці чалавека, блізкасьці душы, каб падзяліцца сваімі адчуваньнямі і веліччу думак.

— Гэй, людзі! ці ведаеце вы, што тут у мяне сядзіць?! — крыкнула яна, разам вышаўшы на сярэдзіну карчмы і стукнуўшы кулаком у грудзі.

— А, ці ведаеце, га?!

— А што там у цябе сядзіць? — пачуўся голас ззаду.

— Тут, тут... пропасьць бяздонная! — крыкнула яна, абярнуўшыся і гледзячы проста на работніка, каторы з усьмэхам пазіраў на яе.

Навокал зацікавіліся гэткім выпадкам і прыціхлі; нейкі ап'янеўшы хлапец крыкнуў: — Адыдзіся, бач, каб нам не ўваліцца ў гэную прорву.

— Эх, людзі! — казала далей Стахурская, не зважаючы на яго словы, — ці ведаеце вы, які гэты сьвет?

— П'яны — крыкнуў ізноў хлапец і дадаў:

— Ты лепш патанцуй, бабуля, а я табе зайграю — і зачаў граць на язык казака, але Стахурская на гэты раз абразілася, і тупнуўшы нагой, крыкнула:

— Проч, сьвінапасе, ты яшчэ не дарос, каб зразумець мяне, старую...

Агульны рогат выклікаў у яе яшчэ большы гнеў, каторы яна зараз і выліла на кабеціну, сядзеўшую за адным сталом з работнікам з дзіцём на руках.

— А ты, сука, чаго вышчарылася?.. ты думаеш што ты лепшая за мяне?.. ці тваё тут месца, ў карчме, га?.. добрыя жонкі дома вараць, а не па корчмах цягаюцца...

— А табе што за бяда, п'яніца ты паганая, лахудра старая...

Апошняя лаянка акапчальна абурыла Стахурскую; яна не магла далей сябе стрымліваць і, сьціснуўшы кулакі, з пенай і брыдкімі выразамі на вуснах кінулася біць кабеціну; але паміж імі зараз-жа апынуўся работнік; узяўшы Стахурскую за каўнер сваею моцнаю лапаю, ён прыгнуў яе да зямлі і, перацягнуўшы праз карчму, выкінуў за дзьверы.

*К.*

*(Працяг будзе).*

